# „Die ✡ Welt“

## Nr. 33, 15.08.1902

## “Сьвет“

## Цэнтральны рупар сіяністкага руху

### Адносна становішча яўрэйскага пралетарыяту ў Магілёве на Дняпры. *)

**Сара Рабіновіч** (Фрайбург у.Б.[1])

Уводзіны. – Першае уражаньне. – Яўрэі гарадской перыферыі. – “Прадпрыемчы пралетарыят”. – Лішак людзей пры тавараздвароце. – Фарміраваньне руска-яўрэйскіх гандляроў. – Так званыя “люмпен гандляры”. – Каробачнікі. – Лішак людзей пры таваравытворчасьці. – Аб’яднаньне працоўных. – Немагчымасьць эканамічнага пашырэньня. – Ліхвяр у асобе “Wocher”а. – Ліхвярства пры крэдытах на набыцьцё. Ліхвярства пры крэдытах на часовыя патрэбы. – Праект доктара Кацэнэлензона на апошнім сіяністкім кангрэсе ў Базэлі. – “Габеты”. – “Пушке”. – Да характарыстыкі яўрэйскай дабрачыннасьці ў Магілёве на Дняпры. – Агульнае заключэньне.

*

У цэнтры індустрыяльна беднай часткі Беларусі, у баку ад усіх чыгуначных шляхоў знаходзіцца губернскі горад, у якім асабліва яскрава і ясна працякае своеасаблівае жыцьцё руска-яўрэйскага пралетарыяту. Гэты горад завецца Магілёў на Дняпры.

Той, хто ўпершыню трапляе на параходзе ў Магілёў з заходняй эўропы, на прычале не заўважае звычайна нічога надта асаблівага, акрамя людскога натоўпу, які верагодна можна параўнаць толькі з натоўпам на скрыжаваньні буйных эўрапейскіх транспартных шляхоў. Нешматлікія добраапранутыя пасажыры, што сыходзяць з параходу, літаральна падвяргаюцца людскому штурму, 5-10 яўрэйскіх насільшчыкаў прапаноўваюць сябе кожнаму, каб паднесьці яго багаж да брычкі; фурманы палка спрачаюцца за гонар, прывезьці яго ў горад, каробачніцы, таксама яўрэйскага паходжаньня, хрыплым голасам агалошваюць свае тавары: булкі, пірагі, каўбасу, садавіну сумнеўнай чысьціні і проста страшэннай таннасьці.

На бліжэйшых да прычала вуліцах заўважае ўзброены дарам назіраньня чужынец аналягічны неспакойны, снуючы рух: ён заўважае несуразьмерна вялікую колькасьць маленьніх, яўрэйскіх крам, і зноўку і зноўку яўрэйскіх насільшчыкаў, рамізьнікаў і каробачніц, якія прапануюць амаль умольным голасам свае паслугі. Аднак, калі чалавек трапляе ў цэнтр горада, карціна цалкам мяняецца.

Спакой, цішыня пануе там, як ні ў якім іншым горадзе з падобнай колькасьцю жыхароў (Магілёў налічвае 46 918 чалавек насельніцтва). Нідзе не пачуць грукату экіпажа; амаль сонным, зусім без аніякай сьпешкі здаецца тут кожны пешаход. Калі зьдзіўлены чужынец зьвернецца да статыстыкі, каб неяк патлумачыць сабе гэткі кантраст, то ён даведаецца, што Магілёў налічвае 216 фабрык і майстэрняў, якія ўсе разам з 606 працоўнымі і 614 532 рублямі капіталу займаюцца вытворчасьцю амаль толькі для мясцовага збыту; што такім чынам высьвятляе галечу адных і бадзёрую бесклапотнасьць іншых слаёў насельніцтва зусім не як арганічнае цэлае сьветлага і цёмнага бакоў высокаразьвітай індустрыі.

*) Гэтая праца зьяўляецца вытрымкай з доктарскай дысертацыі, якая ў бліжэйшыя месяцы зьявіцца ў “Народнагаспадарчых навучных працах бадэнскіх інстытутаў” у выдавецтве Брауна ў Карлсруэ. Аўтарка бачыць сябе абавязанай зрабіць гэтую вытрымку, што грунтуецца на асабістых назіраньнях, даступнай таксама больш шырокім колам, таму яна склала яе адмыслова для газэты “Сьвет”.

[1] Фрайбург у Брайсгау

Прычына гэткай своеасаблівасьці робіцца зразумелай толькі таму, хто прыклаў намаганьні накіравацца ў перыферыйныя, населеныя амаль выключна яўрэямі кварталы горада, каб атрымаць нейкае ўяўленьне пра іх становішча. Яўрэі, якія налічваюць 12,4 адсотка насельніцтва Магілёўскай губэрні *), насяляюць у Магілёве пераважна гэтыя кварталы.

Паміж брудных, небрукаваных вуліц, на якіх нават пры сонечным надвор'і ногі патанаюць у гноевай вадкасьці, хаатычна ляжаць маленькія, старыя, напаўспустошаныя драўляныя хаткі з нізкімі вакенцамі і разбітымі комінамі. У гэтых хатках пануе голад, мароз, масавая сьмяротнасьць дзяцей і амаль безнадзейная залежнасьць ад ліхвярства дарослых. Дзень за днём гэтым пралетарыям пагражае небясьпека, страціць нават тыя нікчэмныя магчымасьці заробку, праз якія яны ніяк не могуць забясьпечыць сваё жыцьцё і жыцьцё сваіх сямей.

Адсюль і гэты неспакойнае, спалоханае снаваньне, якое накладае тут свой адбітак на усё эканамічнае жыцьцё, падштурхнутыя няспыннай небясьпекай памерці з голаду сотні кідаюцца да тых крыніц заробку, якія іх могуць абараніць іх толькі ад галоднай сьмерці, і гэтая небясьпека – а зусім не эканамічны прынцып як мага найменшых выдаткаў пры як мага большых прыбытках – вызначае тут эканамічны занятак кожнага. Тут гандляру патрэбен пакупнік; а вытворцу спажывец, а не наадварот. Такім чынам тут будуецца, у адрозьненьні ад усіх заходнеэўрапейскіх зьяў, не працоўны, але так бы мовіць "прадпрыемчы пралетарыят": тутэйшы яўрэйскі пралетырай прадае не толькі сваю працоўную сілу, але ён таксама пастаянна мусіць спачатку здабыць рынак для яе.

Штучная скучанасьць вялікай колькасьці рускіх яўрэяў у адносна маленькім "раёне аседласьці", што стварыўся праз рускі перасьлед яўрэў, прывёў да таго, што амаль у кожным горадзе пэўная колькасьць яўрэяў сапраўды асуджаная да павольнай галоднай сьмерці.

Што прыводзіць да зусім своеасаблівага марнавання чалавечай працоўнай сілы, запавольвання працэсаў вытворчасці і тавараздвароту, выкліканага перавышэннем прапановы чалавечых паслуг. Бо нястача не можа ані спыніцца, ані пачакаць: яе трэба проста задаволіць; прынцып меншых стратаў ёй не вядомы.

На шляху паміж вытворцай і спажыўцом яна ўсоўвае перад усім цэлы шэраг змучаных ёю істот, якія чапляюцца з адчайнай сілай за свае жаласныя норы. Калі яны зьнікнуць са сцэны тавараздваротнага працэсу, то ніхто гэтага нават не заўважыць, бо яны нікому не патрэбныя. Аднак пакуль яны ёсьць, ім патрэбна быць занятымі, і яны будуць трымацца гэтага з упартасьцю прагі жыцьця, пакуль яшчэ іх ў некай ступені надзяляюць цярпеньнем традыцыя і звычкі.

Такім чынам фарміруецца руска-яўрэйскі гандляр, гэтая мішэнь антысеміцкіх нападак, гэтае ўвасабленьне знежывеньня і галечы, гэты цень жыцьця, гэтая цацка сьмерці ў заблытанай сетцы дробязнага бою за існаваньне.

Далей трэба прывесьці два тыпу прадстаўнікоў гэтага закінутага класу людзей: так званы яўрэйскі "люмпен гандляр", "пасрэднік сельскай вытворчасьці з гарадскім спажываньнем", і яўрэйскі каробачнік, у большай ступені яўрэйская каробачніца, які, ці якая, рэалізуе "цяркуляцыю тавараў у горадзе". Якая галеча хаваецца пад гэтымі навучнымі апісаньнямі, будзе бачна з наступнага нарысу:

"Люмпен гандляром" называе сябе яўрэйскі дробны гандляр, які вандруе па вёскам з таварамі якіх толькі магчыма відаў паводле патрэбы сялянскага падвор'я, якія ён сам альбо набывае на рынку, альбо ў маленькіх крамах, і мяняе гэтыя тавары на прадукты сельскай гаспадаркі. Ён выбірае свой занятак не з эканамічнага разьліку, але як вынік свайго гаротнага становішча. Увесь яго асноўны капітал складаецца з простага драўлянага воза і маленькай, таннай кабылкі, зь якімі ён вандруе па вёскам. Аднак нават гэты капітал ён вінен клапатліваму ліхвяру, які спраўна атрымлівае свае працэнты, як гэта будзе падрабязьней прыведзена далей. Зваротны капітал люмпен гандляра (сума яго зваротнага тавару) складае 3 – 10 рублёў, якія звычайны растрачваюцца напрацягу аднаго дня.

*) Лічбы для горада Магілёва нажаль не магчыма было вызначыць.

Яго занятак пачынаецца з самага ранку. Тады ён звычайна закупае свае тавары на рынку: жалезныя інструмэнты, танную вопратку, табак, колышкі, запалкі і падобнае. Частка гэтых тавараў часта набываецца таксама ў дробязных крамах, якія са свайго боку выступаюць працадаўцамі для дробных яўрэйскіх індывідуальных майстроў. З гэтым грузам залазіць наш люмпен гандляр на свой вазок і накіроўваецца ў суседнія вёскі адзін, ці ў кампаніі сваёй жонкі, ці аднаго здарослых сыноў. Там прапаноўвае ён сялянскім жыхарам свае дробязі і мяняе іх потым на птушку, пер'е, яйкі і іншыя прадукты сельскай гаспадаркі. Звычайна ён працуе толькі ўлетку падчас сезону працы ў полі; узімку селянін сам прывозіць свае тавары на рынак і мяняе іх на грошы. Калі абмен ажыццявіўся люмпен гандляр вяртаецца позна вечарам да дому ў горад, дзе яго звычайна ўжо чакаюць яўрэйскія бакалейшчыкі, каробачнікі і каробачніцы, якія разбіраюць атрыманыя ім тавары. Падчас таксама ў гэты працэс можа праціснуцца маклер, калі ў люмпен гандляра атрымаецца прыцягнуць да дому нейкую большую здабычу (мелкае быдла, тканіну). Пры добрым ходзе спраў гэты гандаль прыносіць яму ў сярэднем 2 $^{1}/_{2}$ – 5 рублёў штотыдзень; такім чынам, не прымаючы да ўвагі мінімальны прадпрыемчы даход і заробак, і прымаючы ў сярэднім яго зваротны капітал за 10 рублёў, то гэты капітал налічвае сабе працэнты пры штодзённым звароце ад 13 да 26 разоў у год. Такім чынам пры падобных карлікавых таваразваротах гаворка ідзе пра цалкам надзвычайнае павышэньне стаўкі працэнта.

У краме, як і ў каробачніка, тавар таксама не залёжваецца. Бакалейшчыкі прадаюць яго ўжо ў перыферыйных кварталах горада, дзе жыве ўвесь яўрэйскі пралетарыят, аднак каробачнікі прадаюць яго ў горадзе на рынках, на вуліцах ці ў дамах. Іх заробак складае 5 – 10 капеек штодзень.

З 1000 яўрэйскіх сямей, якія былі апытаныя аўтаркай, былі занятыя: у якасьці "люмпен гандляроў" 20, у якасьці каробачнікаў 107 чалавек, зь іх 100 жанчын, сярод якіх 25 удоў і 5 дзяўчынак; у якасьці дробных бакалейшчыкаў са збытам на той самай вуліцы, дзе былі закупленыя тавары, 72 чалавека, зь якіх жанчын 35, сярод якіх 7 удоў. Зразумела, што пры гэткай канкурэнцыі барацьба за грошы настолькі вялікая, што ўсялякі эканамічны разьлік адсоўваецца на задні плян.

Спынімся на кароткі момант на каробачніцах. Толькі невялікая частка зь іх, і менавіта "больш выбітная", займаецца распаўсюдам набытых у люмпен гандляроў тавараў (курэй, пер'я, яек). Яны рэгулярна займаюцца сваім рамяством і маюць звычайна свае асаблівыя колы кліентаў. Разам зь імі маецца прыкладна 5 малочніц, для якіх кола пакупнікоў таксама вызначана.

Усё інакш у большай колькасьці астатніх, якія мусяць літаральна высочваць спажыўца і вельмі часта мусяць спадзявацца толькі на яго літасьць. Садавіна, картопля, якая купляецца ў сялян на рынке, ці выпечка і танныя ласункі разносяцца імі па рынку і на вуліцах; іх штодзённы таваразварот складае часта не больш за 50 капеек і таксама толькі тады, калі яны цэлы дзень знаходзяцца на нагах. Недахоп грошай – бо нават гэтыя невялікія сумы выглядаюць тут як капітал – надае гэтаму рамяству спарадычны характар. Гэтым займаюцца не тады, калі чалавек лічыць рынкавае становішча асабліва выгодным, але калі чалавек назапасіў некалькі капеек. Такім чынам, з эканамічнага погляду гэта цалкам і абсалютна бескарысна, аднак гэты гешэфт з кропкі гледжаньня індывідуальнай экономікі зьяўляецца незамянімай крыніцай падрымкі мізэрных заробкаў галавы сям'і *).

Такім чынам, у масе яўрэйскага "прадпрыемчага пралетарыяту" гаворка йдзе пра эканамічна цалкам і абсалютна залішнія элементы, якія могуць існаваць толькі пры зусім гаротным побыце, і якія верагодна поўнасьцю абсарбіруюцца ў буйную індустрыю Магілёва, якая магчыма ўзьнікне праз маючую адбыцца будоўлі чыгункі.

(Чакайце заканчэньня.)

---

*) Сярод 100 апытаных аўтаркай каробачніц 25 былі ўдовамі, 2 дзяўчынкамі: жонак грузчыкаў і іншых падзёншчыкаў 21, жонак фурманаў 20, жонак "люмпен гандляроў" 2, жонак шаўцоў 7, жонак цесьляроў 7, жонак сынагогскіх служкаў 5, жонак краўцоў 3, жонак мясьнякоў 1, жонак працаўнікоў цыгарэтнай фабрыкі 1.

# „Die ✡ Welt“

## Nr. 34, 22.08.1902
## “Сьвет“
## Цэнтральны рупар сіяністкага руху

### Адносна становішча яўрэйскага пралетарыяту ў Магілёве на Дняпры.

Ад **Сары Рабіновіч** (Фрайбург у.Б.)
(Заканчэньне)

Аналягічны лішак людзей мы сустракаем таксама ў галіне таваравытворчасьці. Нам дастаткова толькі разгледзіць тып аб’яднаньняў працоўных, якія зьявіліся тут ад гаротнага стану. Зьвярнуся зноўку да майго апытаньня. Пасьля таго, сярод 1000 апытаных мной краўцамі назвалі сябе 45, швачкамі 69, шаўцамі 55, панчошніцамі 19, цесьлярамі 51, пекарамі 46.

Паколькі для большасьці гэтых рамесьнікаў гаворка ідзе пра дробных майстроў, якія займаюцца вытворчасьцю толькі для таго квартала, у якім жывуць, альбо для абмежаванай колькасьці наяўных гарадскіх крам, то можна падумаць, які маленькі попыт выпадае на кожнага зь іх. Таму тут працуе сьцвярджэньне Бюхера[2]: “Выконваемая праца можа быць менш за наяўныя чалавечыя сілы. Тады чалавечыя сілы не будуць поўнасьцю выкарыставанымі, калі працоўны будзе абмяжоўвацца толькі гэтай адной працай. Узгаданая праца не будзе таксама здольная стварыць аснову прафесыйнага жыцьця, якое корміць чалавека.” Такім чынам таксама і нашым выпадку знаходзяцца камбінацыі рознай прыроды. Я знайшла, напрыклад, наступныя камбінацыі: шмат маляроў, якія звычайна знаходзяць занятак па сваёй прафесыі ўлетку, узімку займаюцца кравецкай справай, альбо ліцьцём галёшаў; бакалейнікі часта былі таксама краўцамі, шаўцамі, падзёншчыкамі і г.д.

Амаль любая магчымасьць эканамічнага прасоўваньня па-за сваёй прафесыяй для маленькага чалавека тут выключаецца. Кожнае арыгінальнае прадпрыемства патрабуе грошай, а грошы можна здабыць толькі адным шляхам: цалкам пакласца на міласьць і няміласьць ліхвяра.

“Wocher”, так называецца ліхвяр на яўрэйска-нямецкім жаргоне, аднак слова гэтае не паходзіць ад нямецкага “Wucherer“[3]. Яно паходзіць ад слова “Woche“[4], бо грошы тут пазычаюцца на тыднёвыя, а не на гадавыя працэнты, і менавіта наступным чынам: даўжнік абязваецца плаціць крэдытору 1-3 штотыдзень за пэўную пазычаную суму, і менавіта велічыня працэнтнай стаўкі ўсталёўваецца аднойчы і назаўсёды, пакуль не выплацяцца апошнія грошы пазыкі. Такім чынам, калі напрыклад А пазычае В 100 рублей пад 3 працэнта, то В павінен плаціць яму штотыдзень, пакуль ён яшчэ вінен яму хаця б якую частку ад тых 100 рублёў, 3 рублі тыднёвых працэнтаў, і нават калі яго пазыка паступова паменшылася да аднаго рубля. Паколькі, аднак, маленькі чалавек можа вяртаць свае пазыкі толькі паступова, то гэта прыносіць “Wocher”у цалкам незьлічоны прыбытак ад працэнтаў.

Аднак, пры той рызыке, якой падвяргаецца ліхвяр у падобных гешэфтах, і пры хуткім звароце дробнага гандлю гэтая сума не будзе здавацца настолькі жудасна вялікай, як на першым погляд. Аднак пры высокіх капітальных інвестыцыях (машыны ў краўцоў, пра якія яшчэ будзе йсьці гаворка ніжэй; коні і вазы для фурманаў і люмпен гандляроў) гэтая сума дае ўжо амаль саму сябе. Перад усім, аднак, пры крэдытах на набыцьцё і крэдытах на

[2] Карл Бюхер (ням. Karl Wilhelm Bücher; 16.02.1847 — 12.11.1930) — нямецкі эканаміст, гісторык народнай гаспадаркі і статыстык, прадстаўнік новай (маладой) гістарычнай школы ў палітычнай эканоміцы. Прафесар палітэканоміцы ў Ляйпцыгскам унівэрсітэце (1892-1917).

[3] Ліхвяр

[4] Тыдзень

часовыя патрэбы ён паказвае усе свае пагібельныя наступствы. У таго, хто праз шматгадовую працу і нястачу здолеў адкласьці нешта на дасягненьне лепшага існаваньня, ён хітрыкамі выціскае ўсе накапленьні; таму, хто нічога не мае акрамя свайго жыцьця, ён абкладае працэнтамі кожны крок, кожны ўкус, кожны подых.

У першым выпадку ліхвяр уражвае сваю ахвяру ў той момант, калі тая, шчасьлівая ўладальніца невялікага капіталу, пачынае насіцца з ідэяй, набыць свой уласны домік. Жаданьне, быць панам у сваім уласным доме, зьяўляецца не толькі ўласьцівай клясу фабрыкантаў патрэбай. Таксама як заходнеэўрапейскаму працоўнаму не дорага ніякае іншае жаданьне, акрамя жаданьня назваць нават невялікі кавалак зямлі сваёй маёмасьцю, то таксама і яўрэйскі пралетарый бачыць у магчымасьці, валодаць сваім уласным домам, вяршыню эканамічнай незалежнасьці. Усё ж такі нават тут, ня гледзячы на параўнальна з эўрапейскімі танныя кошты на зямлю, кватэрнае пытаньне зьяўляецца найтужлівым фэномэнам у жыцьці пралетарыяту! Амаль ніхто з апытаных мной сямей не жыў у сваёй кватэры больш за 2-3 гады, і амаль заўсёды менавіта ўладальнік дома быў тым, хто першым скасоўваў арэнду.

Як толькі ў гэткага кватэразьёмшчыка атрымліваецца накапіць капітал у 50-100 рублёў, ён адразу пачынае азірацца, ці не выпадзе яму магчымасьць набыць, альбо пабудаваць сваю хатку. Магчымасьць выпадае лёгка, патрабуе аднак у два, ці тры разы больш грошай, чым маецца ў чалавека. Тады як раз зьяўляецца “Wocher” са сваёй паслугай і цяпер больш паслужлівей, чым калі. Бо ў гэткіх выпадках ён атрымлівае сабе гарантыю тым, што адпаведны дом будзе набыты ў якасьці заклада на яго імя, і ён можа ў любы момант забраць яго сабе, калі выплаты працэнтаў, ці пазыкі пачнуць замаруджвацца.

Пры поўнай юрыдычнай непісьменнасьці яго даўжніка судовая цяжба апошняга са сваім “Wocher”ам выйдзе нялёгкай.

Яшчэ больш тужлівым робіцца гэта выцягваньне там, дзе даўжніка ставяць перад альтэрнатывай: браць крэдыт, ці памерці з голаду. Доўгімі зімнімі месяцамі, калі надыходзіць беспрацоўе з усімі яго катастрафічнымі наступствамі, бедныя яўрэйскія жыхары перыферыйных кварталаў Магілёва вядуць адчайны бо з галоднай сьмерцю. Тут нават “Wocher” не прыходзіць ім на дапамогу: іхныя уласныя суседзі робяцца для іх ліхвярамі. Уплыў “Wocher”а зьяўляецца тут па-большасьці ўскосна. Дробны бакалейшчык, які звычайна вінны “Wocher”у, выступает перад неплацёжаздольным пакупнікам яго тавараў у якасьці крэдытора; хаця ён не патрабуе ніякіх працэнтаў, аднак зразумела, што “ў крэдыт” выдаюцца толькі самыя дрэнныя тавары за больш высокі кошт, чым пры аплаце наяўнымі грашыма. Таксама гэты дробны бакалейшчык зьяўляецца адзіным, хто запісвае гэты крэдыт, і нельга чакаць, што ён, хто сам хто церпіць нястачу, не скарыстаецца сваім самаўпраўствам над сваім яшчэ больш няшчасным даўжніком.

Гэта той пункт, дзе павінна выкарыстоўвацца сістэма дабрачыннасьці, калі гэта наогул будзе мець нейкі сэнс. Мэта ўсялякай дабрачыннасьці, забяспечыць пражытковым мінімумам тых, хто церпіць нястачу, магла бы быць прыблізна дасягнутая тут праз выдачу танных крэдытаў. Ніякіх сур’ёзных шляхоў у гэтым напрамку яўрэйскімі дабрачыннымі інстытутамі не было зроблена.

Аднак ня трэба папракаць у гэтым яўрэйскую дабрачыннасьць Магілёва. “Ажыцьцяўленьне дзейнасьці“, карыстаючыся выразам Спэнсэра, маецца таксама й тут у лепшым сэнсе і прыносіла ды прыносіць шмат добрага. Аднак з адзіных і прынцыповых пунктаў гледжаньня гэтае дзеяньне не робіцца. Бо паколькі яўрэйскія дабрачынныя ўстановы Магілёва робяцца багатымі яўрэйскімі жыхарамі гарадскога цэнтра, то ў іх не будзе прадугледжана ніякага вялікага разуменьня прычынна-сьледчай сувязі эканамічнага бедства тых, каго яны падтрымліваюць.

Нядаўна пан д-р Кацэнэлензон з Ліепая прапанаваў на апошнім сіянісцкім кангрэсе ў Базылі, заснаваць распаўсюджаныя ў вялікай цішыні па ўсяму раёну аселасьці крэдытныя таварыствы і расшырыць іх на патрэбы яўрэйскіх рамесьнікаў і дробных бакалейшчыкаў. Гэтую прапанову можна было б улічваць ва ўсіх напрамках.

Аднак аўтарка ня мела ніякай магчымасьці, зрабіць больш дакладныя вывучэньні гэтых крэдытных арганізацый, некаторыя зь якіх ужо павінны быць у дзейнасьці. Аднак,

падрабязнае вывучэньне арганізацый руска-яўрэйскага пралетарiяту прадаставіла ёй позірк у глыбокі таварысцкі характар яўрэйскага народу. Гэты характар мог бы даць гарантыі таму, каб дальнабачная прапанова пана д-ра Кацэнэлензона пры належным выкананьні была каранаваная посьпехам.

У якасьці доказа гэтаму павінны быць прыведзены найпрымітыўны характар яўрэйскага таварыства ў Магілёве. Яно настолькі прымітыўнае, што тут не можа йсьці гаворка ні пра якую актуальную эфектыўнасьць; аднак як раз у сваёй прымітыўнасьці яна і зьяўляецца ўласьцівай, бо яна прынцыпова ўвасабляе тую своеасаблівую і цудоўную арганізацыйную здольнасьць, якая адна толькі трымала разам яўрэйскі народ ва ўсіх яго вандраваньнях і трымае нават сёньня. Неазнаёмлены народны сябар павінен разглядаць у іх моцную адпраўную кропку для сваіх прадпрыемстваў, бо там хаваюцца жыцьцяздольныя зародкі, якія пры належным доглядзе могуць страшэнна разрасьціся.

На цёмнай паверхні гаротнасьці і нястачы апісанай вышэй часткі насельніцтва Магілёва зьяўляецца падчас сьветлы прамень самаахвярнай любові і клопату ў асобе так званай “габеты”. Звычайна гэта старая жанчына, часта з асяродзьдзя бядноты, якая ўжо пачынае думаць пра сьмерць і той сьвет і спрабуе выратаваць сваю душу праз адданасьць бедным. Яна звычайна ўсталёўвае адносіны з багацейшым насельніцтвам горада, каб зьбіраць ад іх унёскі на карысьць бедных сваёй вуліцы. Паколькі яна асабіста ведае кожнага з гэтых жабракоў, то праз сваю дапамогу яна заваёўвае іх поўны давер.

Тады паводле яе прапановы і пад яе наглядам бедныя яўрэйскія жанчыны яе вуліцы ўтвараюць своеасаблівы тып касаў узаемнай падтрымкі, якія цесна зьвязаныя з агульнымі звычаямі і традыцыямі яўрэйскага народу і называюцца хэўрамі (таварыствамі). Колькасьць іх чальцоў невызначаная і вольная і яе верхняя мяжа залежыць ад колькасьці яўрэйскай бядноты гарадскога квартала, у якім яны ўтвараюцца. Іх цэнтр заўсёды складаюць габеты і іх дапаможніцы. Кожны чалец мае прыбітую да сьцяны сваёй кватэры “пушке”, бляшаную банку, ключ ад якой захоўваўся у “габеты”. Час ад часу ўладальнікі гэтай банкі кідаюць у яе прораз медную манету, якую яны лічаць недатыкальнай і маёмасьцю хэўры. Дарэчы, гэта стары, распаўсюджаны сярод усіх яўрэяў незалежна ад іх дастатку і стану звычай, мець падобную банку і па зьдзяйсьненьню нейкіх жаданьняў (акрыяньне, посьпех у пэўным прадпрыемстве) ахвяраваць нешта “ў банку”, каб потым выкарыстаць гэта дзеля мэтаў дабрачыннасьці. Такім чынам гэты звычай таксама і тут трымае разам арганічную ашчадкасу жабракоў. Паколькі да радасных падзей гэтых людзей адносіцца перад усім нечаканы эканамічны посьпех, то выкананьне абяцаньня, у падобных выпадках ахвяраваць нешта ў банку, робіцца адначасова выкарыстаньнем шчасьлівых выпадковасьцей для значна больш частых выпадкаў агульнай безпрацоўнасьці.

Грошы з банак зьбіраюцца “габетай” раз у месяц і раздаюцца звычайна ў зімовыя месяцы, час хваробаў і беспрацоўнасьці, сярод чальцоў, якія найбольш пакутуюць. Таксама і мужчыны пад кіраўніцтвам “габэ” маюць на шматлікіх вуліцах падобныя хэўры, якія дапаўняюць дзейнасьць жаночых хэўраў. Канечне гаворка пры гэтым ідзе пра настолькі дробныя зборы (3 – 5 рублёў штомесяц), што нямагчыма казаць пра вырашальны ўплыў хэўры ў жыцьці бядноты. Аднак прынцыпова яна напоўненая сапраўдным сэнсам, бо спрабуе вызваліць людзей ад капрызаў лёсу; там, дзе яна – напоўненая гэтым прынцыпам – аперуе большымі сродкамі, яе ўплыў таксама зусім іншы.

Тут не месца, абмяркоўваць тыя астатнія выпадкі, якія маюць найбольшае значэньне для ўсяго сацыяльнага жыцьця руска-яўрэйскага пралетарыяту. Дазволю сабе толькі прывесьці гэты пункт з агульнага заключэння спецыяльна для яўрэйскай дабрачыннасьці.

Той, хто як аўтарка, меў магчымасьць на працягу доўгага часу жыць у маленькім горадзе руска-яўрэйскай рысы аседласьці і назіраць за дзейнасьцю тамашніх яўрэйскіх філантропаў, ведае, што руска-яўрэйская інтэлегенцыя песьціць лепшыя намеры для сваіх бедных аднаверцаў. І ўсё ж – калі чалавек глядзіць на яўрэйскія дабрачынныя інстытуты, у іх шэрагу кухні для бедных, школы для бедных, жаночыя аб’яднаньні і г.д., то чалавек натыкаецца на поўнае бясьсільле. Тут можна заўважыць абсалютны недахоп народнага падмурку, і жабрак успрымаецца тут як нешта цалкам чужое, як аб’ект для падтрымкі, але не як суб’ект, якому жадаюць дапамагчы.

Інтэлегентная руска-яўрэйская моладзь паказвае інстынктыўнае разуменьне недахопу гэтых інстытутаў. Ва ўсялякім разе з іх боку амаль кожны год узьнікаюць праекты новых дабрачынных арганізацый, якія здаецца кіруюцца новым прынцыпам. Аднак таксама і тут няма ніякай сапраўднай узаемасувязі.

Замест таго, каб распрацоўваць праекты, філантрапічная руска-яўрэйская моладзь павінна была б здабыць сабе за маральна дапушчальны кошт актыўны ўплыў у існуючых філантрапічных інстытутах. Чаго нам не хапае, гэта аб'яднаньня ўсіх арганізацыйна актыўных яўрэйскіх філантропаў у адзіную эфектыўную супольнасьць. У гэтай супольнасьці, аднак, у першую чаргу мусяць быць надзеленыя вялікімі правамі ўдзельніка прадстаўнікі з народу ў асобах "габеты" і "габэ".

Канечне, на сходах жаночых камітэтаў у Магілёве звычайна прымаюць удзел таксама і "габеты", якія па загаду гэтага камітэту раздаюць у бедных кварталах невялікія грашовыя сумы ў форме падтрымкі, ці беспрацэнтнай пазыкі. Але пасада гэтых "габет" цалкам падначальная. Як шмат, аднак, можна было б даведацца ад іх, калі б ім далі магчымасьць выступіць на роўных правах, і з павагай выслухалі б іх меркаваньне! Аўтарка сама ўдзячная за вялікую частку сваіх ведаў пра яўрэйскі пралетарыят Магілёва адной такой "габеце" па імені Цырэле, з якой яна гутарыла на працягу доўгага часу амаль штодзень, і зь яе дапамогай выканала частку свайго апытаньня.

Мне добра вядома, што меркаваньне "габеты", і адпаведна "габэ", не заўсёды ёсьць дакладнае і адзінае слушнае. Яно часта вельмі недальнабачнае і напоўненая вузкімі цікаўнасьцямі аднаго квартала, ці адной вуліцы. Аднак, ва ўсялякім выпадку, яно заслуговае быць уважліва выслуханым. Толькі потым можна будаваць наступны крытэрый на падмурку народнага выраку. І чым больш у маленькіх гарадах рысы аседласьці "габеты" і "габэ" будуць прыцягвацца да парады ў філантрапічных прадпрыемствах, тым больш дальнабачнымі зробяцца таксама і тыя. Гэткім чынам яўрэйская фідантрапія можа знайсьці моцны корань у народзе, замест таго, каб рабіцца органам для ажыцьцяўленьня гуманітарных парываў багатых.

Мэтай наступнага твору будзе паказаць пазітыўныя шляхі ў гэтай галіне.

(пераклад Давіда Лісоўскага)